WWW.BAJ.BY

ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

# СМІ ў БЕЛАРУСІ

№ 3 (59)
ЛІПЕНЬ–ВЕРАСЕНЬ
2019



pixabay.com

ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ
СМІ
Ў БЕЛАРУСІ
№ 3 (59)
ЛІПЕНЬ–ВЕРАСЕНЬ 2019

# Становішча ў галіне СМІ ў ліпені–верасні 2019 года

Напярэдадні парламенцкіх выбараў, прызначаных на 17 лістапада, становішча ў галіне СМІ ў Беларусі было адносна спакойным.

Аднак прынамсі двое журналістаў сутыкаліся з пагрозамі на свой адрас, якія засталіся нерасследаванымі.

Пасля больш як трохмесячнай паўзы аднавіўся адміністрацыйны пераслед журналістаў-фрылансераў за супрацу з замежнымі СМІ.

Супраць некалькіх рэдакцыяў інтэрнэт-СМІ былі пададзеныя позвы аб абароне гонару і годнасці чыноўнікаў, аднак разгляд гэтых справаў чакаецца ў лістападзе.



# Асноўныя падзеі ў галіне СМІ ў ліпені–верасні 2019 г.

## Пагрозы журналістам

Блогер Андрэй Павук з раённага цэнтра Акцябрскі (Гомельская вобласць) атрымаў на свой адрас пагрозы пасля таго, як звярнуўся у суд з позвай да супрацоўнікаў міліцыі. Ён патрабаваў ад іх кампенсацыю маральнай шкоды за затрыманне ў сакавіку па падазрэнні ў ілжэмініраванні.



**24 верасня**, напярэдадні разгляду позвы ў судзе Акцябрскага раёна, блогер атрымаў у месенджар Viber паведамленне з пагрозамі ад невядомых асобаў:

«Заўтра суд, і ты яго прайграеш. Тэма з вобшукам была створана для таго, каб ты задумаўся пра свае

паводзіны, закрыў свой смярдзючы рот і ўладкаваўся на працу. Скажы дзякуй, што нічога не падкінулі. Калі будзеш займацца сабатажам і ачарненнем існуючай улады, будуць прымацца захады ў дачыненні да цябе. Сядзеш, і твая [непрыстойнасць] жонка будзе перадачкі насіць […]».

Аўтар паведамлення дагэтуль не вызначаны.

4 кастрычніка Андрэю Павуку патэлефанаваў аператыўны дзяжурны РАУС і паведаміў, што ў міліцыю паступіла тэлефанаванне быццам бы з нумара самога Павука, падчас якога невядомы, які назваўся Андрэем і паведаміў хатні адрас блогера, сказаў, што «забіў сваю жонку Вольгу». Жонка Андрэя Вольга была вымушана тлумачыць, што гэты званок – правакацыя. У РАУС паведамілі, што «хулігана» знайсці не атрымаецца.

→ *Андрэй Павук і яго сям'я церпяць ад псіхалагічнага ціску і запалохвання на працягу доўгага часу. Так, у сакавіку і траўні 2019 года невядомыя рассылалі ад імя А. Павука з указаннем ягонага тэлефона паведамленні аб мінаванні адміністрацыйных будынкаў. Блогер стаўся падазраваным па крымінальнай справе аб ілжэмінаванні, яго затрымлівалі з ужываннем сілы, у кватэры правялі вобшук і сканфіскавалі прафесійнае абсталяванне (пазней яно часткова было вернутае).*

**19 жніўня** журналістка «Зялёнага партала» (greenbelarus.info) Наста Захарэвіч атрымала паведамленні з абразамі і схаванай пагрозай у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте».

Рэдакцыя партала звязвае гэта з публікацыямі пра будаўніцтва ў Брэсце акумулятарнага завода і пратэстамі эколагаў і жыхароў горада з гэтай нагоды.



Журналістка звярнулася ў міліцыю з патрабаваннем прыцягнуць аўтара паведамленняў да адміністрацыйнай адказнасці. Упраўленне ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна г. Мінска паведаміла, што асоба, якая пагражала Н. Захарэвіч, не вызначаная.

## Аднаўленне пераследу журналістаў-фрылансераў

У верасні пасля трохмесячнага перапынку аднавіўся пераслед журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

**19 верасня** ў г. Бялынічы (Магілёўская вобласць) міліцыя склала пратакол паводле часткі 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях у стасунку да журналісткі Дар'і Чульцовай.

У якасці правапарушэння журналістцы інкрымінавалі сюжэт, які выйшаў на тэлеканале «Белсат» 22 жніўня 2019 года ў праграме «Аб'ектыў» пад назвай «Новы галоўны ідэолаг Андрэй



Кунцэвіч – гэта чалавек, за якім пэўна пойдзе моладзь». Пры гэтым сюжэт быў пазітыўным для прадстаўніка мясцовай улады.

У кастрычніку суд Бялыніцкага раёна без удзелу журналісткі аштрафаваў яе на 20 базавых велічыняў (510 беларускіх рублёў, што тоесна 250 далярам ЗША).

**18 верасня** суд г. Паставы Віцебскай вобласці аштрафаваў на 30 базавых велічыняў (765 рублёў, або каля 370 даляраў ЗША) журналіста Змітра Міцкевіча за супрацу з тэлеканалам «Белсат» без акрэдытацыі.

→ *Частка 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб і/ці распаўсюд прадукцыі СМІ. На думку БАЖ, журналісты не могуць прыцягвацца да адказнасці паводле гэтага артыкула, бо прадукцыю СМІ вырабляюць не журналісты, а рэдакцыі, і распаўсюджваюць – распаўсюднікі. Адказнасці за дзейнасць без акрэдытацыі КаАП не прадугледжвае.*

**За першыя дзевяць месяцаў 2019 года** журналісты былі аштрафаваныя 39 разоў паводле ч. 2 арт. 22.0 КаАП на агульную суму 36592,5 рублёў, што тоесна прыблізна 17850 далярам ЗША. Пры гэтым з канца траўня па сярэдзіну верасня да адміністрацыйнай адказнасці за супрацу з замежнымі СМІ журналістаў не прыцягвалі. Верагодна, гэта было звязана з правядзеннем у Беларусі Еўрапейскіх гульняў.

# Рэйтынгі, індэксы, статыстыка



Больш за 16 тысячаў чалавек падпісалі петыцыю супраць прымусовай падпіскі на друкаваныя дзяржаўныя СМІ ў Беларусі. Збор подпісаў адбываецца на сайце Change.org.

Камітэт абароны журналістаў (CPJ) уключыў Беларусь у рэйтынгавы ліст краінаў з найбольш жорсткай цэнзурай, размясціўшы яе на 9-м месцы.

